**ЗЬМІЦЕР САЎКА**

ПЕРШ ЯК ПАЧАЦЬ

За найлепшы вынік публікаваньня наступнага тэксту была б **канчатковая адмова ад любых зьменаў у афіцыйным правапісе да моманту вяртаньня беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай**.

# Вярблюд на трасянцы*

## Улады ўзяліся рэгуляваць тое, чым яны й ня думаюць карыстацца

### Замест прадмовы да рэцэнзіі на новую рэдакцыю «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»

Яшчэ на золку свайго прэзыдэнцтва А. Лукашэнка ясна вызначыў пэрспэктыву разьвіцьця беларускае мовы — нябыт. І сам максымальна прыклаўся (і прыкладаецца) да рэалізацыі гэтага пляну, мо спадзеючыся на ляўры апошняга далакопа. На гэтым фоне любы факт найаўгусьцейшае ўвагі да беларусазнаўчае тэматыкі ўспрымаецца нацыянальна арыентаванаю публікаю як замах на беларушчыну. Не ратуюць нават кароткатэрміновыя камуфляваньні пад таварыша Сапегу.

Таму паведамленьне пра ўнясеньне зьменаў у афіцыйны стандарт беларускага правапісу зацікаўленая частка грамадзтва інтэрпрэтавала як чарговыя падкопы ўладаў. Прыкладам, далёкі ад палітычных віхураў ляўрэат Дзяржпрэміі БССР пісьменьнік Віктар Казько прызнаецца:

> Когда я узнал о намерении что-то поменять в орфографии и пунктуации белорусского языка, испытал непреходящее чувство боли, тревоги и возмущения... Сегодня власти берутся менять то, что уже ушло из государственного оборота и уходит даже из обыденного. Меняют люди, не владеющие первым, по сути, государственным языком... Как бы

***Зьміцер Саўка*** *(нар. 1965 у Менску) — беларускі мовазнавец, адзін з аўтараў кнігі «Беларускі клясычны правапіс» (2005).*

* Трасянка — стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 5. Кн. 1. С. 515).

нам не пришлось после всех этих реформ возрождать белорусское слово... На мой взгляд, идет планомерное наступление на все белорусское[1].

## «Даёшь новое правописание!» за 9 гадоў і 2 тыдні!

Камэнтаваная храналёгія

***1997 год***

Пад эгідай Інстытуту мовазнаўства й Міністэрства адукацыі распачынаецца праца над новай рэдакцыяй беларускага правапісу. На рэалізацыю праекту зь бюджэту асыгнуюцца сродкі, фармальна ў стварэньні дакумэнту бяруць удзел з паўсотні ўстановаў, пераважна адукацыйных. Утвараецца працоўны калектыў: землякі-аднавяскоўцы, абодва прадстаўнікі Інстытуту мовазнаўства — дырэктар Аляксандар Падлужны (1935—2005) і супрацоўнік Аляксандар Крывіцкі (нар. 1927), унівэрсытэцкія выкладчыкі — прафэсары Арнольд Міхневіч (нар. 1936), Павал Шуба (1926—2000), Міхась Яўневіч (нар. 1922), ягоная дачка дацэнт Алена Цясевіч (нар. 1951).

***1999 год***

Міністэрства адукацыі разаслала па катэдрах беларускай мовы першы варыянт праекту Падлужнага (назавем яго так) — «зялёную кніжачку», паводле колеру вокладкі. Як нам выпала дачуцца ад калегаў з катэдраў сталічных унівэрсытэтаў, абмеркаваньне праекту зазвычай зводзілася да фармальнае працэдуры. Агульны стан апатыі сярод унівэрсытэцкіх беларусістаў, выкліканы адцісканьнем дысцыплінаў беларусазнаўчага цыклю на пэрыфэрыю, у шэрагу месцаў — абвальнае скарачэньне гадзінаў на выкладаньне беларускае мовы, а таксама яшчэ савецкая звычка сабатаваць любыя «ініцыятывы», спушчаныя «зьверху», — усё гэта не спрыяла перарастаньню абмеркаваньня ў жывы працэс, рэальную дыскусію.

Праўда, мелі месца выпадкі, калі фармалізм і абыякавасьць адступалі перад прынцыповасьцю й зацікаўленасьцю. Гэтак, не рэкамэндавала праект да зацьверджаньня катэдра беларускага мовазнаўства БДПУ; асноўныя закіды пералічыў у сваім артыкуле «Які ён, «новы правапіс»?» дацэнт унівэрсытэту Алесь Каўрус[2].

***2000 год***

У друку зьявіліся новыя водгукі на праект. Пра ўражаньні дацэнта Гомельскага ўнівэрсытэту Зьмітра Паўлаўца ўжо красамоўна гаворыць назоў ягонае рэцэнзіі — «Паспех — курам на смех: Патрэбны грунтоўны арфаграфічны звод»[3].

Прафэсар Гарадзенскага ўнівэрсытэту Павал Сьцяцко ў сваёй разгорнутай рэцэнзіі «Сучасныя моўныя рэальнасці і праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»[4], ацэньваючы разьдзел «Правапіс марфем», прыходзіць

[1] Труд. 2006. 30 жніўня—7 верасьня.

[2] ЛіМ. 1999. 19 лістапада.

[3] ЛіМ. 2000. 18 лютага.

[4] Роднае слова. 2000. №3.

да высновы: «Тут нямала штучнага, што замацоўвае разнамоўную трасянку». Аднак найперш рэцэнзэнт сканцэнтраваўся на разьдзеле «Асабовыя ўласныя імёны і прозвішчы» аўтарства Тацяны Рамзы (на той момант — старшага навуковага супрацоўніка Інстытуту мовазнаўства). Але ад ягонае крытыкі адмахнуліся: маўляў, рэцэнзія зводзілася да граматычных момантаў праекту, амаль пакінуўшы без увагі ўласна правапісны бок дакумэнту. Часткова гэта так, аднак, забягаючы наперад, адзначым, што, відаць, нездарма ў апошнім варыянце ўжо Міністэрскага праекту, які й ёсьць аб'ектам нашага далейшага разгляду, разьдзел, які выклікаў найбольш крытычных стрэлаў з боку праф. Сьцяцка, зьнік.

***2001 год***

15 сакавіка А. Падлужны выступіў з дакладам, прысьвечаным праекту, на паседжаньні Прэзыдыюму Акадэміі навук, пра што паведаміла радыё «Рацыя»:

> Аляксандар Падлужны распавёў пра розьніцу ў напісаньні слоў «бухгалт**а**р» і «бюстгальт**э**р» у афіцыйным правапісе... Акадэмік, аднак, памыліўся, бо нават у цяперашнім правапісе ў абодвух словах у фінале насамрэч пішацца «**а**».

Пра ўзровень дыскусіі з нагоды дакладу сьведчыць наступная карцінка:

> Акадэмік Сушчэня пацікавіўся ў Аляксандра Падлужнага — якім правапісам выдадзены трохтомны «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяю Кандрата Крапівы. А іншы ягоны калега запытаўся ў дырэктара Інстытуту мовазнаўства — як мае быць правільна па-беларуску: «экал**ё**гія» або «экал**о**гія». Пытаньні беларускіх акадэмікаў сьведчылі пра неабазнанасьць іх ня толькі ў правапісе, але й у беларускай мове наагул. Далей паседжаньне працягвалася па-расейску[5].

***2002 год***

Пасьля абмеркаваньня на катэдрах Міністэрства сабрала водгукі і, як вынік перапрацаваньня праекту з улікам заўвагаў і прапановаў, зьявілася «ружовая кніжачка».

22 сьнежня праект быў ухвалены Прэзыдыюмам Акадэміі навук.

***2003 год***

14 сакавіка з нагоды выхаду новае рэдакцыі праекту Саюз пісьменьнікаў Беларусі склікаў «круглы стол» з удзелам літаратараў і мовазнаўцаў. «Круглы стол» у цэлым крытычна паставіўся да шэрагу выкладзеных прапановаў і рэкамэндаваў дакумэнту не прымаць.

«Ружовая кніжачка» трапляе ў Адміністрацыю прэзыдэнта. Дзеля «прасоўваньня паперы» А. Падлужны парупіўся пра тое, каб з гэтага часу асобныя правілы праекту пачалі праводзіцца ў мове газэты «Звязда», рэдактары, стыльрэдактарская й карэк-

[5] Віктар Мухін. Новы правапіс: між «бюстгальтарам» і «ніёбіем» // Радыё «Рацыя». 2001. 15 сакавіка.

тарская службы атрымалі сьціслы пераказ артаграфічных «навінаў» і загад начальства надалей трымацца азначаных правілаў. Гэтае рашэньне парушыла пастанову Савету Міністраў № 556 ад 17 жніўня 1993 г. «Аб удакладненні правапісу беларускай мовы» за подпісам Міхаіла Мясьніковіча (тады — першага намесьніка старшыні СМ).

> Да ўвядзення ў дзеянне новага зводу правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі **строга прытрымлівацца** (вылучэньне нашае — **З. С.**) Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959.).

Ужо ў 2006 г. парушальнікам пастановы стала й «Настаўніцкая газета».

***2004 год***

На сьвет зьяўляецца трэцяя, апошняя рэдакцыя праекту Падлужнага — «жоўтая кніжачка», якая нібыта легла на галоўны стол краіны. Аднак зьяўленьне новага варыянту не паспрыяла яго афіцыйнаму прыняцьцю. У гэты час намесьнік дырэктара Інстытуту мовазнаўства Аляксандар Лукашанец прызнаецца:

> Пасля таго, як праект «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» быў адобраны на пасяджэнні прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ён быў накіраваны ў адпаведныя дзяржаўныя інстанцыі для ўзгаднення. Аднак гэты працэс ідзе вельмі марудна. Зараз робяцца захады, каб паскорыць вырашэнне гэтага пытання[6].

***2005 год***

Пераканаўшыся ў тым, што ні наўпроставыя дзеяньні, ні правядзеньне праз Прэзыдыюм АН не набліжаюць зацьверджаньня праекту, А. Падлужны ў суправаджэньні А. Лукашанца наведвае Міністэрства адукацыі й атрымлівае падтрыманьне з боку міністра Аляксандра Радзькова. Гэта быў выніковы крок: нават з адыходам Аляксандра Падлужнага, калі пачало здавацца, што ягоны праект так і застанецца пыліцца ў высокіх сэйфах, бюракратычная машына марудна, але пэўна вяла задуманае за заканчэньня...

***2006 год***

***Студзень***

Міністэрства адукацыі стварае яшчэ адну працоўную групу — каб чарговы раз падправіць праект Падлужнага. Гэтак нараджаецца новы праект (назавем яго Міністэрскім), які з кожнай новай рэдакцыяй усё больш і больш аддаляецца ад свайго прататыпу. Паводле А. Радзькова, у працы камісіі «принимали участие представители общественности и сотрудники «Настаўніцкай газеты», ... молодые ученые, а также учителя белорусского языка и методисты»[7], аднак, паводле канфідэнцыйных зьвестак, фактычна над праектам працавалі двое прадстаўнікоў Інстытуту мовазнаўства

[6] Мова без дамовы // Салідарнасць. 2004. 14 траўня.

[7] Інтэрвію для БелаПАН. 2006. 29 жніўня.

[8] Наша Ніва. 2006. 1 верасьня.

(іх прозьвішчы нам вядомыя), прыцягненыя да справы асабіста А. Лукашанцам. Што да сяброў камісіі, то бальшыня зь іх у часе паседжаньняў (а паседжаньні працягваліся да лета) заставаліся пасіўнымі назіральнікамі.

Ачолілі камісію Аляксандар Лукашанец (нар. 1954) і Віктар Іўчанкаў (нар. 1962) — прафэсар журфаку БДУ й адначасова дарадца міністра адукацыі ў сувязях са СМІ й грамадзкасьцю, а таксама ягоны сябар. Відаць, таму апошні і стаў трэцім, самым магутным прамотарам Міністэрскага праекту. Ня выключана, што дзякуючы далучэньню да работы менавіта В. Іўчанкава дакумэнт пачаў атрымліваць рысы, якія так рэзка супрацьпаставілі Міністэрскі праект праекту Падлужнага. Гэтыя разьбежнасьці В. Іўчанкаў у сваіх інтэрвію толькі падкрэсьліваў, у адрозьненьне ад А. Лукашанца, які ў кожным публічным выступе цьвердзіў, што Міністэрскі праект практычна нічым ня розьніцца ад праекту Падлужнага.

Дарэчы, і факт, і час стварэньня працоўнае групы сталі вядомыя грамадзкасьці толькі з інтэрвію Іўчанкава на хвалях 1-й праграмы радыё 11 верасьня (перадача «Зямля, што дадзена нам лёсам»); датуль гэтая інфармацыя не афішавалася, а склад камісіі й на сёньня застаецца не абвешчаным публічна.

***25 жніўня***

Міністар Радзькоў, як звыкла — напярэдадні навучальнага году, наведаў з дакладам галаву дзяржавы і, сярод іншага, закрануў пытаньне пра патрэбу прыняцьця новай рэдакцыі правілаў артаграфіі ды пунктуацыі беларускае мовы. У адказ А. Лукашэнка даручыў чыноўніку цягам двух тыдняў падаць праект на разгляд. У сваім паведамленьні пра гэтую рутынную рэакцыю БелТА не пашкадавала важнага разьдзіманьня шчок (пісаць жа пра нешта трэба!) і хоцькі-няхоцькі стварыла сэнсацыю...

Цягам верасьня нам давялося размаўляць зь сябрамі камісіі, якія не імкнуліся афішаваць свайго ўдзелу ў ёй. Пакіньма й мы іх інкогніта, толькі адзначым, што адзін цьвердзіў: рашэньне ўжо прынятае, Лукашэнка ўжо падпісаў, таму застаецца толькі выконваць, другі, наадварот, казаў: справа рэформы — пытаньне доўгіх месяцаў.

***Канец жніўня — верасень***

Прагучаў дружны залп дзяржаўных СМІ з інфармацыяй пра будучыя зьмены ў беларускім правапісе, на які гэтак жа дружна адгукнуліся незалежныя мэдыі, у тым ліку НТВ, расейская служба ВВС, нават далёкія ад падобнае лірыкі «Итоги». Назіральнікі (у тым ліку й аўтар гэтага матэрыялу) ці не ў адзін голас цьвердзілі: улады пайшлі чарговым наступам, магчыма, каб забараніць клясычны правапіс (давесьці да лягічнага канца справу, распачатую працэсам супраць «Нашае Нівы»). Асабліва згрэла на гэтую вэрсію прызнаньне А. Лукашанца ў інтэрвію той жа «НН»:

> Ня ведаю, ці забароняць «тарашкевіцу»... Калі б гэта залежала ад мяне, то я б забараніў[8].

З катэгарычных, часам блытаных камэнтароў В. Іўчанкава (напр., «буква **о** пишется в белорусском языке только под ударением... теперь из этого правила исклю-

[9] Мн.: Народная асвета, 1991. Накл. 12 000.

чений не останется», «в редакции 1959 года что ни правило — то отсылка к какому-то параграфу», «людзі ня ведаюць, як пісаць: *штогод* ці *штогад*») стала зразумела, што да падпісаньня прапаноўваецца не праект Падлужнага, а нешта іншае.

Заклапочанае рэжымам сакрэтнасьці вакол праекту Таварыства беларускае школы афіцыйна зьвярнулася да А. Радзькова з просьбаю даць магчымасьць пазнаёміцца з праектам. Міністар не адказаў.

## Народжаны эклектычным

Крыніцы Міністэрскага праекту

Хібнасьць цэлага шэрагу прынцыпаў афіцыйнага правапісу ўсьведамлялася з моманту яго прыняцьця ў 1933 г., што й выклікала зьмены 1957—1959 гг. Прыбраўшы з правапісу самыя адыёзныя моманты (найперш палітычна матываваныя выключэньні, якія, праўда, засталіся ў граматыцы), кадыфікатары не зьмянілі ягонае русіфікацыйнае сутнасьці. Таму адраджэньне 1990-х не магло пакінуць без увагі правапіснае праблемы й паклікала да жыцьця Камісію па ўдасканаленьні правапісу, або Правапісную камісію, Таварыства беларускае мовы (старшыня камісіі праф. Генадзь Цыхун).

У камісію ўвайшлі й антыподы — «нефармал» Вінцук Вячорка ды акадэмік Аляксандар Падлужны. Гэты факт у пэўнай ступені паўплываў на зьмест і праекту Падлужнага, і як вынік — праекту Міністэрскага; тагачасны дух дэрусіфікацыі й дэсаветызацыі нейкім чынам закрануў і галоўнага чыноўніка краіны ад мовазнаўства: у анатацыі да перавыданьня граматыкі Тарашкевіча А. Падлужны адзначаў:

> Факсімільнае выданне «Беларускай граматыкі для школ» дасць магчымасць... ацаніць, што можна ўзнавіць з былых часоў[9].

А ўжо праз год, на Рэспубліканскай навуковай канфэрэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» 19—20 лістапада 1992 г., прызнаў:

> Безумоўна, увядзенне мяккага знака ўмацавала б асіміляцыйную мяккасць, дзякуючы правільнасці чытання[10].

У часе працы Правапіснае камісіі маўклівы заўсёднік паседжаньняў Падлужны пазнаёміўся з ідэямі «рэфарматараў». Цэлы шэраг гэтых ідэяў пазьней трапіў на разгляд ужо афіцыйнай Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускай літаратурнай мовы (1993—1994 гг., старшыня народны паэт Ніл Гілевіч), у склад якой з тэбээмаўскае камісіі трапілі толькі А. Падлужны, Г. Цыхун і А. Яскевіч. Некаторыя з тых прапановаў Аляксандар Ёсіфавіч правёў у сваім праекце, колькі зь іх

[10] Здзіслаў Сіцько. Праблемы і тэндэнцыі // Наша слова. 1992. 16 сьнежня.

[11] Радыё «Свабода». 2006. 28 жніўня.

засталося і ў Міністэрскім праекце.

Аднак цьверджаньне А. Лукашанца, што праект Падлужнага грунтуецца на рашэньнях Дзяржаўнае камісіі[11], не адпавядае рэчаіснасьці. Тым больш неперакanaўчаю выглядае наступная заява дырэктара Інстытуту мовазнаўства:

> «В 1993 году была создана государственная комиссия, которая еще тогда подготовила проект новой редакции правил орфографии и пунктуации...», — сказал А. Лукашанец[12].

Прапановы Дзяржаўнае камісіі[13] ніяк нельга назваць праектам, бо гэта ўсяго толькі 4 старонкі кніжнага тэксту, палова зь якіх уяўляе зь сябе... анкету, прысьвечаную правапісу мяккага знака. Што да зьместу гэтых прапановаў, то ён значна бліжэйшы да рэкамэндацыяў Правапіснае камісіі ТБМ, чымся да праекту Падлужнага, а тым больш Міністэрскага праекту (гл. табліцу).

| **Сутнасьць прапановаў (у розных праектах канкрэтныя фармулёўкі адрозьніваюцца)** | **Рэкамэндацыі Правапіснае камісіі ТБМ** | | **Выніковы дакумэнт Дзяржаўнае камісіі (26.01.1994)** | **Праект Падлужнага (3-я рэдакцыя — «жоўтая кніжачка», 2004)** | **Міністэрскі праект (паводле стану на 27.10.2006)** |
|---|---|---|---|---|---|
| | **Прапанаваныя III зьездам ТБМ (26–27.03.1993)** | **Падтрыманыя III зьездам ТБМ** | | | |
| Абазначаць асыміляцыйную мяккасьць: *з**ь**вер*, *с**ь**нег*. | + | + | ? | – | – |
| Паказваць мяккасьць **нь** перад суфіксам **-ск-**: *ко**нь**скі*, *Люба**нь**скі*. | 0 | 0 | ? | – | – |
| Паказваць мяккасьць **нь** перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад кітайскіх назваў: *уха**нь**скі*, *цяньша**нь**скі*. | 0 | 0 | 0 | + | – |
| Уніфікаваць вынікі «сутыкненьня» **-к-** утваральнае асновы й суфікса **-ск-**: *узбе**ц**кі*, *таджы**ц**кі*, як *калмы**ц**кі*. | + | + | + | – | – |

[12] Агенцыя «Интерфакс». 2006. 29 жніўня.

[13] Ад Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы // Звязда. 1994. 26 студзеня.

[14] Комсомольская правда в Белоруссии. 2006. 29 жніўня.

| **Сутнасьць прапановаў (у розных праектах канкрэтныя фармулёўкі адрозьніваюцца)** | **Рэкамэндацыі Правапіснае камісіі ТБМ** | | **Выніковы дакумэнт Дзяржаўнае камісіі (26.01.1994)** | **Праект Падлужнага (3-я рэдакцыя — «жоўтая кніжачка», 2004)** | **Міністэрскі праект (паводле стану на 27.10.2006)** |
|---|---|---|---|---|---|
| | **Прапанаваныя III зьездам ТБМ (26—27.03.1993)** | **Падтрыманыя III зьездам ТБМ** | | | |
| Уніфікаваць правапіс каранёвага спалучэньня ***сч*** паходжаньнем з ***ск*** і ***ст*** (***сц***): *пя**шч**аны*, як *ва**шч**ына*, *пя**шч**ота*. | + | + | + | – | – |
| Перадаваць спалучэньне **-стн-** на сутыку марфэмаў фанэтычна — **-сн-**: *кантра**сн**ы*, *кампо**сн**ы*, як *по**сн**ы*. | + | + | + | + | + |
| Пасьлядоўна праводзіць пераход **о** → **а** ў першай частцы складаных словаў, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі: *мал**а**чнакіслы*, *усх**а**дазнаўства*, *ф**а**ндасховішча*, *м**а**вазнаўства*. | + | – | – | – | + |
| Перадаваць яканьне ў выпадку з злучальным галосным перад **ў**: *вогн**я**ўстойлівы, земл**я**ўласнік.* | + | + | + | + | + Але ў тэксьце: *вогн**е**ўстойлівы* |
| Перадаваць яканьне ў лічэбніках *дз**я**вяты*, *дз**я**сяты*, *с**я**мнаццаць*, *вас**я**мнаццаць* і ў вытворных. | + | + | + | 0 | + |
| Дапусьціць скарачэньне **і** → **й** пасьля галоснай, калі гэта асобнае слова. | + | + | + | – | – |
| Уніфікаваць напісаньне пачатковага ненаціскнога **у** — незалежна ад паходжаньня: *пры **ў**ніверсітэце*, *ва **ў**нісон*, як *пры **ў**дзеле*, *ва **ў**радзе*. | + | – | + | + | + |

| **Сутнасьць прапановаў (у розных праектах канкрэтныя фармулёўкі адрозьніваюцца)** | **Рэкамэндацыі Правапіснае камісіі ТБМ** | | **Вынiковы дакумэнт Дзяржаўнае камісіі (26.01.1994)** | **Праект Падлужнага (3-я рэдакцыя — «жоўтая кніжачка», 2004)** | **Міністэрскі праект (паводле стану на 27.10.2006)** |
|---|---|---|---|---|---|
| | **Прапанаваныя III зьездам ТБМ (26—27.03.1993)** | **Падтрыманыя III зьездам ТБМ** | | | |
| Пашырыць аканьне на ненаціскныя фіналі **-al**, **-ar**: *лід**а**р*, *кат**а**р*; *шпінд**а**ль*. | + | + | + | + | + |
| Праводзіць у пазычаньнях устаўны ёт ва ўсіх спалучэньнях «**і**/**ы** + галосны»: *тр**ыё***, *адаж**ыё***, *Ток**іё***; *тр**ыю**мф*, *рад**ыю**с*, *кансіл**ію**м*, *прэзыд**ыю**м*. | + | – | ∩ | ∩ | Δ |
| У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў можа аднаўляцца этымалягічнае **о**, і тады дапускаецца іх дваякае напісаньне: *выканк**а**м* і *выканк**о**м*, *сельк**а**р* і *сельк**о**р*. | 0 | 0 | + | Толькі: *выканк**о**м*, *сельк**о**р*. | Толькі: *выканк**а**м*, *сельк**а**р*. |
| *І**лл**я*, *І**лл**іч*, *У**лл**яна*, *Ка**сс**ян* і *І**ль**я*, *І**ль**іч*, *У**ль**яна*, *Ка**сь**ян*. | 0 | 0 | + | Толькі: *І**ль**я*, *І**ль**іч*, *У**ль**яна*, *Ка**сь**ян*. | Толькі: *І**ль**я*, *І**ль**іч*, *У**ль**яна*, *Ка**сь**ян*. |
| *Жа**н**а*, *Сюза**н**а* і *Жа**нн**а*, *Сюза**нн**а*. | 0 | 0 | + | Толькі: *Жа**нн**а*. | Толькі: *Жа**нн**а*. |
| Толькі: *Та**ц**яна* | 0 | 0 | + | – | – |
| Лібэралізацыі правілаў пераносу. | 0 | 0 | + | + | + |

Умоўныя абазначэньні

+ прапанова прынятая.
— прапанова не прынятая.
∩ прапанова прынятая часткова.
? прапанова разглядалася, але рашэньне не прынятае.
0 пытаньне не разглядалася.
Δ прапаноўваецца «трэцяе» рашэньне.

## Расейская сініца

Першыя наступствы Міністэрскага праекту

Любая згадка пра зьмену беларускага правапісу фатальным чынам адбіваецца на ўжываньні беларускае мовы ў адукацыйнай сфэры. Галоўнае — у якасьці тэставай дысцыпліны абітурыенты яшчэ часьцей будуць выбіраюць не «няясна якую» беларускую мову, а стабільную расейскую. І ланцуговая рэакцыя: зьніжэньне цікавасьці да прадмету — скарачэньне попыту на рэпэтытарскую дапамогу — вымываньне з кола выкладчыкаў-беларусістаў найбольш дасьведчаных і ініцыятыўных прафэсіяналаў (шмат хто з пэдагогаў мае паралельныя кваліфікацыі), а ў прафэсіі застаюцца шэрыя, безаблічныя, ня здольныя запаліць у вучнях цікавасьці да мовы «ўчыцяля». Вынік: без пэрспэктывы «здачы», у атмасфэры абыякавасьці да прадмету і з боку настаўнікаў, і з боку бацькоў — вучань беларускаю моваю займацца ня будзе. І паўтарай танкаўскі «Родная мова» як мантру хоць кожны ўрок...

Голас з інтэрнэт-формаў:

**Anya, 16 лет** (2006-08-29). Не понимаю, к чему изменения. Может тем, кто учит язык и проще, а вот мне, например, тестирование через 2 года сдавать. И задания, думаю, будут как раз на новые правила. Как же сдать тесты? Честно говоря, тем, кто сейчас учится, итак досталось: сплошные изменения во всех сферах, касающихся учёбы.

Усьведамляючы разбуральны эфэкт сваіх заяваў, Іўчанкаў, Лукашанец і Радзькоў неаднаразова паўтаралі, што працэс гэты будзе паступовы, толькі не дамовіліся, што казаць журналістам:

**Іўчанкаў:** «Год-два будут учитываться и старые, и новые Правила»[14].
**Лукашанец:** «Як мінімум гады тры»[15].

Сёлета ў паступленчай кампаніі здавалі тэст па беларускай мове больш за 75 тысячаў абітурыентаў. Пераканацца, ці нашыя змрочныя прагнозы спраўдзіліся, можна будзе ўжо летам 2007-га.

## Хто заплаціць за банкет?

Колькі будуць каштаваць «невялікія зьмены»?

Яшчэ А. Падлужны не стамляўся паўтараць, што «паколькі змяненні мінімальныя, падкрэслю, што старымі падручнікамі можна карыстацца, пакуль яны не «зносяцца»[16]. Аднак новыя правілы ахопяць значна шырэйшае кола словаў, асабліва тэр-

[15] Звязда. 2006. 2 верасьня.

[16] ЛіМ. 2004. 12 сакавіка.

[17] 1994: Звязда. 13 верасьня; ЛіМ. 16 верасьня; Настаўніцкая газета. 17 верасьня

мінаў, чымся разьлічваюць самі «наватары». Гэта мы пакажам ніжэй дастаткова наглядна. Ужо цяпер можна цьвердзіць, што падручнікі бальшыні гуманітарных дысцыплінаў змогуць перажыць абяцаныя зьмены зь меншымі стратамі, а вось кнігі зь іншых прадметных групаў прыйдзецца перавыдаць. Таксама будуць належаць поўнай замене падручнікі беларускае мовы. А гэта — аграмадная доля бюджэтных грошай з кішэні «На адукацыю», якія маглі б пайсьці на больш сэнсоўныя мэты.

Калі ж не зрабіць замены навучальнае літаратуры, новыя правілы на фоне старых напісаньняў у падручніках (не забывайма на «магію друкаванага слова»!) паставяць перад вучнямі нерашальныя задачкі й канчаткова адвернуць іх ад беларускіх тэстаў.

Таму за банкет пыхлівасьці прыйдзецца плаціць або нам з вамі, або самой мове.

Каб рэзюмаваць адказ на пытаньне: ці варта плаціць такую высокую цану за нечыя амбіцыі ды жаданьне выслужыцца перад начальствам? — нам застаецца салідарызавацца з высновамі Дзяржаўнай камісіі, зробленымі 12 гадоў таму, якія сёньня гучаць, на жаль, яшчэ актуальней:

> Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз’яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з’яўляецца несвоечасовым і немэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі нават іх апраўданасць у інтарэсах самой мовы і не выклікае сумненняў. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць[17].

## ПЕРШ ЯК ПЕРАЙСЬЦІ ДА АСНОЎНАГА…

Рэцэнзію мы вырашылі падаць афіцыйным правапісам, бязь «лішніх мяккіх знакаў», пазьбягаючы «ўсялякіх нязвыкласьцяў», — каб быць пачутымі тымі, хто не ўспрымае «тарашкевіцы» й адмаўляецца браць пад увагу ўсё, створанае «няправільным» правапісам.